# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 18 (1720) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК 30 КРАСАВІКА 1989 г. ЦАНА 40 зл.

ЛЯВОН ТАРАСЭВІЧ — СЫН НАШАЙ ЗЯМЛІ, БЕЛАРУС, МАСТАК СУСВЕТНАГА МАШТАБУ. УСЯГО ПЯЦЬ ГАДОЎ ТАМУ ЗАКОНЧЫЎ ЁН МАСТАЦКУЮ АКАДЭМІЮ Ў ВАРШАВЕ, АЛЕ ЯГО ПРАЦЫ ШЫРОКА ВЯДОМЫ ЎЖО НЕ ТОЛЬКІ Ў ЕЎРОПЕ, АЛЕ І Ў АЗІІ, І Ў ДЗВЮХ АМЕРЫКАХ ТАКСАМА. ЖЫВЕ І ПРАЦУЕ Ў ВЁСЦЫ ВАЛІЛЫ.

Рэпартаж пра яго чытайце на ст. ст. 6-7.

Фота Ю. Гольцэра.

Карэспандэнцыя з Мінска

## ВЕДАЦЬ І АБАРАНЯЦЬ КАРЭННІ

У 1986 годзе Аргенціну наведала турыстычная група савецкага Таварыства „Радзіма". У яе складзе — вядомыя артысты, прадстаўнікі рэспубліканскіх таварыстваў па культурных сувязях з суайчыннікамі за рубяжом: Беларусі, Украіны, Літвы, Арменіі, служыцелі праваслаўнай царквы. Мэта падарожжа — сустрэча з землякамі, знаёмства з дзейнасцю іх арганізацый, аб'яднаных у Федэрацыю культурных таварыстваў савецкіх грамадзян Аргенціны. Пра суайчыннікаў, якія жывуць і працуюць у краіне срэбра, нязменна падтрымліваючы сувязі з Бацькаўшчынай, і пойдзе наша гаворка.

1

Дарога з Масквы ў Буэнас-Айрэс страх якая няблізкая, досыць на карту глянуць — галава закружыцца; ноч ляцім і палову дня захопім. Затое і рэдкая ў наш век-спешку выгода: часу маем удосталь, каб безліч думак перадумаць. Яны ж то беглі наперад, то вярталіся назад і ўсё да аднаго прыпынку, да тых людзей, каго ліхая доля-спакусніца і абставіны адарвалі ад бацькоўскага гнязда і занеслі ў другое зямное паўшар'е. І адчуваеш, што дакранешся да гэтага прыпынку, як да нечага надзвычай тонкага, балючага, трагічнага, быццам да самой аголенай субстанцыі, што хаваецца за карот-

(Працяг на стар. 2)

Найлепшыя велікодныя і першамайскія пажаданні чытачам ад „Нівы"



Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



## ВЕСТКІ З ХРАБАЛОЎ

— Калі на пачатку навучальнага года была ўведзена чацвертая гадзіна беларускай мовы ў тыдзень, урокі беларускай мовы зрабіліся для нас вельмі чаканымі — сказалі „Зорцы“ дзяўчаткі-васьмікласніцы са школы ў Храбалах. — Наша настаўніца Ірына Ефімюк выразна нам акрэсліла, што дзве гадзіны ў тыдзень мы прысвячаем беларускай літаратуры, адну гадзіну — граматыцы, а чацвёртая гадзіна — гэта вольныя тэмы.

І асабліва падабаюцца васьмікласнікам гэтыя вольныя тэмы. Тут можна аб усім пагаварыць. На гэтыя ўрокі яны прыносяць магнітафон, развучваюць новыя песні, спяваюць тыя, якія найбольш любяць.

Цікавымі сталі і ўрокі літаратуры. Апрача праграмнай класікі, вельмі падабаецца вучням сучасная літаратура. Разглядалі на ўроках творы Васіля Быкава, Янкі Брыля, Пімена Панчанкі. Значна ўзбагаціліся ўрокі беларускай літаратуры пасля таго, як мінулым летам настаўніца Ірына Ефімюк пабывала ў Мінску на курсе для настаўнікаў. З Беларусі пані Ірынка вярнулася з поўным чамаданам навейшых беларускіх кніжак. Праўда, усе яны толькі па адным экземпляры, але васьмікласнікі вельмі задаволены, што могуць пазнаёміцца з навінкамі, што могуць даведацца, што цяпер чытае Беларусь, чым жыве і што там дзеецца.

У школьнай бібліятэцы беларускіх кніжак шмат, але ўсе яны з даўнейшых папаўненняў. А новыя беларускія кніжкі вельмі рэдка трапляюць у школьную бібліятэку.

Тады ж настаўніца прывезла і шмат каляровых альбомаў аб Беларусі, і цяпер на ўроках на вольныя тэмы часта дзеці слухаюць расказы настаўніцы аб беларускай прыродзе, аб гісторыі, помніках старыны і старадаўніх летапісах. Усё гэта набліжае старэйшых ужо школьнікаў да нашай супольнай беларускай спадчыны.

Вучацца ў Храбалах беларускай мове ўсе беларускія дзеці, ну, можа, за выключэннем найслабейшых у вучобе наогул.

(Працяг на стар. 10)



**Трэцякласнікі Маніка Чэрвінская, Івона Кананюк, Марта Мрачынская, Аля Якімюк і Пеця Коршак са сваёй настаўніцай Ірынай Ефімюк.**



**Другакласнікі на ўроку беларускай мовы.**

Віктар Швед

### ВЯЛІКДЗЕНЬ

Святы Велікодныя,
Вясёлыя святы,
Абрады народныя,
Як жа іх багата!
Воскам рысаваныя
Яечкі бабуляй,
Або фарбаваныя
Ў лупіне цыбулі.
Яйкі валачобныя
Дораныя дзецям,
Гульні паасобныя
Маем на прыкмеце.
Яйкамі ўдараюцца,
Выйграў той, хто з цэлым,
З шуфліка пускаюцца,
Злоўлена — займела.
Мы сям'ёй вялікаю,
За сталом багатым,
Нашага Вялікадня
Сустракаем святы.
Сталы нашы модныя
Пасхай-караваем.
Святы Велікодныя
Сардэчна вітаем!

### ЗАГАДКА З КУРАНЯТКАМ

Усцешылася матка:
— Ты глянь, дачуся Майка,
Як хутка куранятка
Выклёўваецца з яйка.

— Мо гэта цуд часамі? —
Пытаецца малое. —
Як куранятка, мама,
Туды ўвайшло, кудою?

### КЛАДКА ДА НЕБА

Да неба Міколка,
Дажджлівай вясною,
Угледзеў вясёлку,
Сагнутай дугою.

— Ты глянь толькі, татка,
Сказаць табе трэба,
Вось маем мы кладку
З поручняў да неба.

### АЛЁША Ў ГАЛОШАХ

Мама запытала Алёшу,
Вярнуўшыся дамоў з работы:
— Навошта ты абуў галошы,
Калі няма нідзе балота?

Алёша ветліва ўсміхнуўся
І маме адказаў прыгожа:
— Балота я знайду, мамуся,
Нідзе яно ўцячы не можа.





## Пішуць школьнікі

### ДОБРЫ ДЗЕНЬ, „ЗОРКА“

*Мяне завуць Федзя. Мне 6 год. Я вучуся ў першым класе. Яшчэ я займаюся музыкай і сам укладаю песні.*

*Сваю песню на словы Дануты Бічэль-Загнетавай „Радзіма“ я прысвячаю ўсім чытачам „Нівы“ і ўсім беларусам, якія жывуць за межамі маёй рэспублікі.*

*Мой тата дапамог запісаць песню на ноты. Спадзяюся, што яна спадабаецца.*

**Федзя Жывалеўскі, Гродна.**

### РАДЗІМА

**Словы Д. Бічэль-Загнетавай**
**Музыка Федзі Жывалеўскага**

*Перад вачыма наша Радзіма,*
*Росаў бязмежжа і Белавежа.*
*Зубрык махнаты*
*Ходзіць ля хаты*
*Ускоквае ў сны*
*Конь вараны.*

*І за плячыма — наша Радзіма:*
*Кнігі Скарыны, зорка Максіма.*
*Белыя коні*
*Крыўскай пагоні*
*Мчацца ўгару*
*Праз Беларусь.*




## БУСЛІНАЕ ГНЯЗДО

*Вучні сёмага класа пачатковай школы ў Дашах запісалі расказ дзядзькі Цімафея Пякуціна з іх мясцовасці.*

„З апавядання майго дзеда і бацькі мне запамяталася, што буслы на нашым селішчы паявіліся недзе каля 1880 года. Змайстравалі яны сабе гняздо на высокім вязе, метраў дваццаці, які рос у нас за клуняй. Зімой 1911 года страшэнная віхура знішчыла гняздо, зламала дрэва. Вясной прыляцелі буслы. Яны пакружыліся над зломаным вязам і пачалі будаваць новае гняздо на клуні.

З малых гадоў мяне цікавіла жыццё птушак. Калі яны адляталі, я, сямігадовы хлапчук, даглядаў іхняе жыллё. Разам з бацькам па драбіне мы ўцягвалі пучкі галля і наладжвалі ім гняздо. Тады я зрэзаў верхавіну зламанага вяза, паклаў туды старую барану, нанасіў рознага галля і чакаў.

Відаць, буслам спадабалася мая падрыхтоўка, і яны зрабілі там сабе новае гняздо.

З таго часу птушкі прылятаюць да нас кожны год. Прыемна, калі іх клекатанне будзіць цябе ранічкай. Адчуваеш тады сябе неяк бяспечна, спакойна. Даўней у вёсцы бусліных гнёздаў было дзевяць. Цяпер засталося толькі адно — на маім вязе. І я ганаруся гэтым!“

## ПАЗНАЁМІМСЯ

* * *

БССР, 231400, г. Навагрудак, пер. 3-ці Мінскі, д. 8. Фалевічу Ігару. 9 клас.

* * *

Славамір Баран, вучань 6 класа, 17-340 Рагачы, 6. Беластоцкае ваяводства. Польшча.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 5, кв. 14. Валера Сычыкаў. 4 клас.

* * *

СССР, 346513, Ростовская обл., г. Шахты, пер. Енисейский, 1 „Г“, кв. 19. Христенко Тоня. 3 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 7, к. 1, кв. 34. Дзяніс Прысекін. 3 клас.

* * *

Раман Астапчук, 6 клас, вёска Мікулічы 17, пошта 17-340 Рагачы, Беластоцкае ваяводства, Польшча.

* * *

СССР, 346514, Ростовская обл., г. Шахты-14, ул. Техническая, 10, кв. 4. Титаренко Елене. 4 клас.

* * *

БССР, 211620, Віцебская вобл. г. Верхнедзвінск, вул. Кобзуна 12-43. Макляёнак Лене. 7 клас.

* * *

БССР, 225140, Брэсцкая вобл., г. Пружаны, вул. Міра, 24а, Антановіч Наташы. 7 клас.

* * *

СССР, 686323, Магаданская обл., г. Сусуман, ул. Билибина, 3, кв. 58. Переверзевой Лене. 6 клас.

* * *

СССР, 686323, Магаданская обл., Сусуманский район, п. Широкий, ул. Школьная, 15, кв. 1. Лопатину Вадиму. 8 клас.

## ВЕСТКІ З ХРАБАЛОЎ

(Працяг са стар. 9)

Другакласнікі вывучаюць родную мову пад апекай настаўніцы Раісы Леснік. Любяць яны гэтыя ўрокі. Асабліва, калі настаўніца згодзіцца пачытаць беларускія казкі. Дзеці ўжо ведаюць шмат беларускіх вершаў і песень на памяць. Нават адважыліся дэкламаваць і спяваць пры ўсёй школе на сустрэчы з „Зоркай“!

А вось трэці клас — гэта наогул моцны клас у школе. „Ён такі актыўны, — гаворыць пра яго настаўніца Ірына Ефімюк, — што з ім не сорамна нідзе паказацца. Яны не баяцца ніякай візітацыі“. На сустрэчы нашай трэці клас заспяваў для „Зоркі“ беларускую веснавую песеньку „Цёплы ветрык вее“...

Трэцякласнікі адгукнуліся на просьбу Міхаські Мароза з Відава, якая друкавалася ў „Зорцы“, і напісалі яму пісьмо. Цяпер вельмі чакаюць ад Міхаські адказу, бо хочуць з ім пасябраваць.

Вучаніцы чацвертага класа Аня Антонюк, Кася Коршак і Эля Ваўранюк удзельнічалі ў сёлета ў беларускім дэкламатарскім конкурсе. Выступілі вельмі добра. А калі ў школе была сустрэча з „Зоркай“, і тут выступілі з вывучанымі творамі беларускіх пісьменнікаў. Вучні чацвёртага класа падрыхтаваліся і да тэатральнага конкурсу — развучылі п'есу „Як я быў доктарам“.

Шасцікласнікі вылучаюцца ў школе тым, што вельмі прыгожа спяваюць. А запяваламі ў іх сёстры Еля і Крыся Семенюкі. Яны заўсёды ў дуэце спяваюць і ўдзельнічаюць у конкурсах беларускай песні. І „Зорцы“ яны таксама заспявалі сваю любімую „Вяне рута“.

На сустрэчы з „Зоркай“ пра сваю школу расказала Мажэнка Паўлючук. Яна разам з Эляй Васілюк заняла добрае месца ў супрацьпажарніцкім конкурсе. З прыемнасцю паведаміла Мажэнка таксама, што яе сяброўка васьмікласніца Міра Міранюк аказалася найлепшай у гміне ў прадметных конкурсах па рускай і па польскай мовах, а ў спорце — вельмі добрыя бегуны Даніла Дамброўскі і Марэк Грынявіцкі. У ваяводскім турніры бегу па перасачанай мясцовасці, які арганізавала ЛЗС, яны занялі вельмі добрыя месцы.

На развітанне мы дагаварыліся, што дзеці з Храбалоў будуць пастаянна пісаць лісты да „Зоркі“, каб і іншыя вучні ведалі, як яны жывуць і чым займаюцца.

**Яніна Чэрнякевіч**
**Фота аўтара**

## А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А



*Хто найпрыгажэй размалюе веснавую карціну каляровымі алоўкамі?*



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1, „Зорка“.

# КРЫЖАВАНКА

**Упоперак:** 1) сястра Украіны, 5) існаванне, 7) асвятляльны прыбор, які можа быць пад вокам, 8) па ёй можна ўзлезці на вышкі, 9) дах з саломы, 12) збіраюць яго пчолы, 15) на граніцы СССР з Кітаем, 16) твор паэта, 18) трава, якая сніцца, 19) мноства жывых істот, 20) часта ў яе заглядае п'яніца.

**Уніз:** 1) напісаў верш „Пагоня", 2) ад мая да верасня, 3) дрэва з аранжава-чырвонымі ягадамі, 4) сакавіты корм для жывёлы, 5) наёмны работнік, 6) сваяк зубра, якога цяпер няма, 10) музыкант, які дзьме, 11) часовае карыстанне маёмасцю, 13) пень з карэннямі, 14) пачатак дня, 17) манарх у шахматах, 18) страціла яго варона, калі „заспявала".

„ядань"

Сярод чытачоў, якія на працягу двух тыдняў прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны дзве кніжныя ўзнагароды.

**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 12.**

**Упоперак:** вавёрка, горб, рубец, Арарат. жыхарка, санкі, авантура, вожык, ваяка, гонар, нітка, клён, шапка, аскет.

**Уніз:** варожка, выбух, рыцар, асака, градка, Батумі, аснова, клуня, саваина, нажытак, варона, квант, арка.

Кніжныя ўзнагароды выйгралі: Міхась Гут і Сяржук Жандараў з Гомеля, Аляксандр Дабчынскі з Трыпуцёў.

# НІЎКА

На

— *Палавіна людзей на свеце не ведае, як жыве другая палавіна.*
— *О, гэта не ў нашым мястэчку!*

Рыс. Ха-Га

## ПАЎТОРНАСЦЬ НЕПАЎТОРНАГА

523
Іголка пракладвае дарогу, але след пакідае нітка.

524
У каханага чалавека не бачым недахопаў, а ў зненавіджанага — цнотаў.

525
Ён быў шчаслівы тады, калі мог гаварыць аб сваіх няшчасцях.

526
Калі не залатаеш малую дзірку дабравольна, залатаеш вялікую прымусова.

527
Здараецца, што горкі грэх вельмі салодкі.

528
Памятай і гавары аб тым, што памаглі табе людзі, але не гавары аб тым, што ты дапамог людзям.

529
Доўга думай аб тым, як выказацца коратка.

530
Паэзія гэта не канцэрт слоў, а гармонія думак.

**Алесь Барскі**

Тры дамы з вышэйшых сфер п'юць гарбату ў садзе на прадмесці Калькуты. Нечакана з кустоў выскаквае агромная малпа — гарыла, хапае адну з дам і хаваецца разам з ёю ў зарасніку. Дзве астатнія нейкі час знаходзіліся ў стане шоку, потым, так як бы нічога не здарылася, прадаўжаюць піць гарбату. Адна з іх звяртаецца да другой:

— Не ведаю, ці будзеш згодная са мной, але я зусім не разумею, што гэтая гарыла ў ёй знайшла...

# ТЫ КАЗАЛА Ў ПАНЯДЗЕЛАК

Умерана, жартаўліва ♩=88

*— Ты казала ў панядзелак*
*Пойдзем разам з пасядзелак,*
*Я прыйшоў — цябе няма:*
*Падманула, падвяла.*

*Прыпеў: Ты ж мяне падманула,*
*Ты ж мяне падвяла,*
*Ты ж мяне, маладога,*
*З ума-розуму звяла.*)*

*— Ты казала у аўторак*
*Пацалуеш разоў сорак,*
*Я прыйшоў — цябе няма:*
*Падманула, падвяла.*

*Прыпеў.*

*— Ты казала у сярэду*
*Пойдзем разам на бяседу,*
*Я прыйшоў — цябе няма!*
*Падманула падвяла.*

*Прыпеў.*

*— Ты казала у чацвер*
*Пойдзем разам на вячэр,*
*Я прыйшоў — цябе няма:*
*Падманула, падвяла.*

*Прыпеў.*

*— Ты казала у пятніцу*
*Пойдзем разам у святліцу,*
*Я прыйшоў — цябе няма:*
*Падманула, падвяла.*

*Прыпеў.*

*— Ты казала у суботу*
*Пойдзем разам на работу,*
*Я прыйшоў — цябе няма:*
*Падманула, падвяла.*

*Прыпеў.*

*— Ты казала у нядзелю*
*Пойдзем разам на вяселле,*
*Я прыйшоў — цябе няма:*
*Падманула, падвяла.*

*Прыпеў.*

*) *Прыпеў спяваецца двойчы.*

*

— Колькі табе год, хлопча?

— Сем, але каб мой тата не быў такі нясмелы, то мог бы я ўжо мець дзевяць або дзесяць.

*

— Ну, як твой сын? Вылечыўся ад клептаманіі?

— Яму ўжо стала лепш. Цяпер прыносіць дадому рэчы, якія могуць прыгадзіцца ў гаспадарцы.

*

— Мы проста не ўяўляем, якое ўздзеянне на нас аказвае друк!

— О, мяне можаце не пераконваць! Я ажаніўся па аб'яўцы ў газеце.

*

Жонка:

— Мяне папрасілі напісаць рэкамендацыю нашай былой служанцы. Я напісала, што яна непунктуальная і неахайная. Што мне напісаць у яе карысць?

Муж:

— Можаш дабавіць, што ў яе цудоўны апетыт і што яна любіць паспаць.

## Міне, нам!

Там, дзе пануе хлусня, няма дружбы.